## *Два шляхі*

(Канец з 1 бал.)

ўважаюць, што яны задзіночаць сьвет вагнём і мячом. Аднак, і яны пераканаліся, што адным гвалтам сьвет сяньня здабыць нельга, што патрэбная яшчэ іншая зброя, зброя духовая — нейкая ідэя, якая мела-б дапамагчы грубой сіле задзіночыць сьвет шляхам ягонага апанаваньня ды стварэньня парадкаў із панамі й нявольнікамі, із „старэйшымі" й малодшымі й г. д. Ясна, што праўды ў гэткіх ідэях няма чаго шукаць. Яе там ніколі ня было й ня будзе.

З другога боку, імкненьне да задзіночаньня сьвету праявілася і ў іншай плашчыні, у плашчыні шляхотнага людзкага духу. Асновы ягоныя нам знаныя: усе людзі й народы роўныя, усе — браты. Ідэі агульнага братэрства адпавядалі найлепшым імкненьням ня толькі волотаў людзкога духу — філёзафаў, пісьменьнікаў, музыкаў, але й пачуцьцям кажнага чэснага, простага чалавека. І ідэі гэтыя здаўна натхнялі ўсіх людзей добрае волі, асабліва моладзь, што заўсёды здольная захапляцца вялікімі думкамі сьвету. Так у аснаўным паўстаў другі шлях задзіночаньня людзей і народаў, шлях, у яснове якога ляжыць іншая сіла: ня меч, вагонь ці вязьніца, а — праўда, справядлівасьць, свабода і ўзаемная пашана, як выразы запраўднае культуры духа.

Ці-ж трэба казаць, што толькі такое задзіночаньне можа быць і будзе добрым і карысным для людзей і народаў? Ці-ж трэба казаць, што чалавек можа быць свабодным толькі тады, калі свабодны й ягоны народ, калі ён у сваёй собскай дзяржаве сам можа будаваць сваю культуру й дабрабыт? У гэтым — сэнс другога шляху разьвіцьця людзкое гісторыі: праз свабоду ўсіх народаў да адзінства чалавецтва, да братэрства, міру, супакою й дабрабыту на зямлі, бо толькі гэты шлях адпавядае аснаўным шляхотным якасьцям людзкога духу, тады як першы — шлях сілы — сыціць адно дзікія зьвярыныя інстынкты чалавечае прыроды, ейныя найгоршыя праявы.

Блізу ўвесь культурны сьвет ужо бачыць і разумее гэта. Не разумеюць, ці ня хочуць гэтага зразумець толькі прадстаўнікі маскоўскае дэспотыі. Бо Масква, якога-б колеру яна ня была, — непахісна трымаецца адзінае турмы на сьвеце, хай тая, першая, і развалілася псыхалягічна ўжо ў 1917 годзе. Тое-ж, што Масква яшчэ й дагэтуль працягвае нішчыць мільёны людзей і цэлыя народы, толькі пацьвярджае неабходнасьць хутчэйшае нэйтралізацыі гэтае крыніцы ўсяго благога.

Нажаль, навет расейскія „дэмакраты" ня хочуць зразумець дух часу й вымогі сучаснага разьвіцьця чалавецтва. Яны даюць свабодалюбным змагаром мянушкі „нацыяналаў", „сэпаратыстаў" ды навет „агентаў чужаземных гаспадарстваў", ня хочучы зразумець, што гэтыя „нацыяналы" расьлі й гартавалі сваю волю на працягу стагодзьдзяў, зьлітых крывёю найлепшых іхных братоў, катаваных тым самым расейскім імпэрыялізмам, супроць якога яны, гэтыя „дэмакраты", самы змагаліся ў 1917 годзе.

Хай так... Праўда ўсёткі пераможа... Бо сяньня ўжо не адзінкі, а народы ў паходзе. Сяньня яны імкнуцца да **поўнае** свабоды й незалежнасьці, каб праз сваю нацыянальную суверэннасьць прыйсьці да задзіночаньня сьвету. Гэта сяньня — непазьбегны чарговы закон часу й ня лічыцца із ім ня можна. Перад сьветам існуюць толькі два шляхі: шлях сталінска-маскоўскага імпэрыялізму — да сусьветнае турмы народаў і шлях запраўднае дэмакратыі, які вядзе праз задзіночаньне ўсіх свабодных народаў — да шчасьця, дабрабыту, культуры й велічы духа. Можна выбраць толькі адзін зь іх. Трэйцяга шляху няма.

**С. Клім**

**П. Вішнеўскі**

# АМЭРЫКА Й БЕЛАРУСЫ

(Працяг)

III*)

Папярэднія вывады з дастатковай выяўнасьцю паказваюць, што нам хутчэй трэба спадзявацца дабра ад амэрыканскага палітычнага ідэалізму і таго дзівоснага „імпэрыялізму", чымся іх баяцца, хоць у пэўнай меры і абсягу яны ўсё яшчэ прадстаўляюць сабою загадку на будучыню. Дзе ж тады хаваюцца крыніцы таго непакою, якім час ад часу напаўняюць нас ходы амэрыканскае палітыкі? Шукаць іх даводзіцца ў двух розных кірунках.

Адным зь іх трэба ўважаць той нягнуткі прынцып'ялізм, які, як мы ўжо бачылі, стварае часам выгодныя магчымасьці для спрытных „дельцов" дзеля ўпражэньня магутнае амэрыканскае машыны ў зусім чужы воз. У дадейшым разьвіцьці нашых думак пабачым, што далёка ня ўсе гужы ад таго ваза парваныя; часта нельга пазбыцца ўражаньня, што Амэрыка ўсе яшчэ тады-сяды йдзе на павадку чужых і варожых ей інтарэсаў. Але аб гэтым крыху пазьней.

Зараз займемся другім непакоючым нас фактарам амэрыканскае палітыкі й скранем адно вялічэзнае пытаньне, аб якім у старой Эўропе непамерна шмат сьпісана паперы, а якое ў Новым Сьвеце ўсё яшчэ выглядае „новым" і, бадай, ці не астанецца такім яшчэ на доўгі час. Маем на думцы злачаснае пытаньне **нацыяналізму,** таго матарычнага фактару ў працэсе сучасных палітычных зьменаў на сьвеце. Мы дакладна здаем сабе справу з таго, што пытаньне гэтае ёсьць вельмі далікатнае натуры. Тым ня менш уважаем за свой журналістычны абавязак тут зусім шчыра і з поўным націскам падкрэсьліць яго выключную важнасьць, калі справа йдзе аб Эўропу і Азію. Як амэрыканцы разумеюць гэтае пытаньне й якія цягнуць з таго разуменьня высновы — жыва цікавіць як беларусаў, так і ўсіх іншых палітычных эмігрантаў з Эўропы, дзе сучасныя нацыяналізмы зарадзіліся й выразіліся ў запраўды несамавітыя формы.

Так, як мы раней зьвярталі ўвагу ш. чытача на факт пэўнае нястачы належнага разуменьня амэрыканцаў і глыбейшага сэнсу іхняе палітыкі з нашага боку, так цяпер хочам адсланіць іншы бок мэдалю і паказаць неспадзявана вялікія прабелы ў інтэрпрэтацыі амэрыканцамі зьявішча нацыяналізму і, што беспасярэдня адсюль вынікае, паважны недахоп здольнасьці ўспрыняць самую сутнасьць працэсу, што мае месца сяньня ў падсавецкай частцы Эўропы наагул, а ідэі адраджэньня нашага, беларускага, народу ў прыватнасьці. Цьвярджаньне гэтае выглядае галаслоўным і кліча за доказамі ды шырэйшым разглядам.

Перш за ўсё, што разумеюць англа-саксонцы пад словам „нацыя"? Калі патрудзіцца й заглянуць у адзін з вялікіх слоўнікаў ангельскае мовы, лёгка даецца сьцьвердзіць цікавы факт, што гэтае высока спэцыфізаванае на эўрапэйскім кантынэнце слова мае ў ангельскай мове вельмі шырокі дыяпазон значэньняў — пачынаючы з індыйскага племені, цераз гурт людзей спалучаных вязамі крыві (супольны продак), супольнасьць этнічную (мова, традыцыя), да грамадзкасьці палітычна зарганізаванае ў гаспадарства і аж да фэдэрацыі штатаў, а навет раса — усё гэта даецца азначыць адным ангельскім словам „nation". Ізноў-жа „nationalizm" можа значыць як аддачасьць справе агулу, а не ягонае часткі адно (у процістаўленьне „сэкцыяналізму"), так і форму сацыялізму, што імкнецца да нацыяналізацыі ўсяе індустрыі, а таксама й вернасьць сваей нацыі або вядзеньне палітыкі, якая ставіць сабе за мэту нацыянальную незалежнасьць. Калі гутарка йдзе аб ЗША, дык тут „нацыяналізмам" называюць закліканьне да большае цэнтралізацыі ўлады й пашырэньня кампэтэнцыі фэдэральнага ўраду коштам абрэзаньня засягу ўлады штатаў і лякальных самаўрадаў; таксама гэтым словам амэрыканцы азначаюць тое, што у Эўропе назвалі-б дзяржаўным эгаізмам. Інтарэсы індыйскага племя, інтарэсы ЗША, як цэласьці, і інтарэсы нацыянальных меншасьцяў у ЗША — да ўсіх аднолькава пасуе слова „national". Ізноў-жа „нацыяналісты" ў англа-саксонцаў, гэта ў першую чаргу той, хто ёсьць прыхільнікам пашырэньня „нацыянальнага" або дзяржаўнага (!) кантролю ў эканоміцы, практычна калектывісты, у процістаўленьне адэптам прыватнае ініцыятывы і неабмяжаванае свабоды дзеяньня; толькі ў другую чаргу гэтым словам назавуць таго, хто стаіць за „нацыянальную" незалежнасьць — ізноў-жа ў ім толькі ўласьцівым значэньні таго слова. Калі да гэтага пярэстага букету дадаць эўрапэйскія інтэрпрэтацыі разгляданых тэрмінаў, атрымаем род мяшанкі, у якой мала каго бярэ ахвота разьбірацца. І аўтар ня мае намеру тут гэтым займацца. Нас цікавіць нешта зусім іншае.

У сьвятле вышэй зьмешчаных разважаньняў нельга проста дзівіцца, што для амэрыканца СССР па аналёгіі да ЗША, ёсьць адно „another nation"; тут ніхто не марочыць сабе галавы тым, як абсурдальна яно гучыць для таго, каму ведама, што сабою прадстаўляе Савецкі Саюз і для каго слова „нацыя" далёка не супадае па сваім значэньні са словам „гаспадарства". А трэба гэтта з націскам падкрэсьліць, што, асабліва калі справа йдзе аб Эўропу і Азію, у амэрыканцаў ёсьць выразная тэндэнцыя утажсамляньня гэтых двох словаў, што, поспаль з вышэй паказанай сэмантычнай блытанінай, прадстаўляе сабою патэнцыяльную небясьпеку розных дзівосаў у амэрыканскай палітыцы.

(працяг будзе)

*) На жаданьне аўтара, артыкул друкуецца бяз стылістычных і моўных папраўкаў.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

З нагоды свайго ад'езду ў Вашынгтон на пасаду Дырэктара Рады Псыхалягічнае Стратэгіі, адмірал Алан Г. Кэрк, былы старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў СССР, зьвярнуўся із словам абнадзейваньня да тых вольных сяньня прадстаўнікоў эміграцыі, якім удалося выратавацца з пад сталінскае тыраніі.

— „Пакідаючы Амэрыканскі Камітэт", сказаў адмірал Кэрк, „каб прыняць свае новыя абавязкі, я лічу патрэбным выразіць сваю падзяку за тое, што Вы, ратаваныя з пад савецкага прыгнёту, дапамаглі мне асягнуць на працягу мінулага паўгодзьдзя.

Усе мы памятаем сумляваньні й страх, якія часам апаноўвалі тых, што імкнуліся асягнуць пагадненьне ў нашай агульнай справе. Аглядаючыся назад, нам, аднак, здаецца, што якраз гэтыя сумляваньні й страх і спрычыніліся ў першую чаргу да стварэньня прадстаўніцкага палітычнага цэнтру.

Бязумоўна, я чую жаль на думку, што мне даводзіцца разьвітацца із тымі шматлікімі новымі супрацоўнікамі, зь якімі я пазнаўся за гэтыя мінулыя поў-гады. Але ў маім жалі мяне пацяшае паўстаньне радыя „Вызваленьне" — голасу ўсіх тых, што столькі ўжо адпакутвалі ў нашыя хаотычныя часы. У хуткім часе яно панясе пакутнікам пад бальшавіцкім ярмом хвалюючую вестку аб нямінучым будучым вызваленьні.

Мы намагаліся разбудоўваць сваю працу старанна й асьцярожна, але ніхто ня можа спадзявацца ад нас цудаў на працягу аднае начы. Мы ніколі не працавалі ў краіне лятуценьняў і не спадзяваліся выклікаць нашымі радыё-перадачамі рэвалюцыю адразу. Мы таксама ня зьбіраліся рызыкаваць жыцьцё адважных людзей, безадказна заклікаючы іх да паўстаньня, якія былі-б неўзабаве здушаныя. Але калі мы ня маем дачыненьня із зруйнаваным рэжымам, што стаіць на парозе рэвалюцыі, дык мы не стаімо й перад непераможным асілкам. Існуе сьцьверджаная непахіснымі фактамі вялікая надзея на перамогу. Момант, што мы сяньня перажываем — гістарычны ў гісторыі эміграцыі. І ён дае мне асабліва добрую нагоду яшчэ раз сьцьвердзіць маю упэўненасьць у будучыні і ў канчальнай перамозе тае справы, якой мы адданыя".

У адказе на разьвітальны зварот свайго былога старшыні, Камітэт, між іншым, сказаў наступнае:

— „Беручы на ўвагу тое, што старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня адмірал Алан Г. Кэрк прыняў прапанову Прэзыдэнта ЗША заняць высокую ўрадавую пасаду й вярнуцца на дзяржаўную службу, Выканаўчая Рада Амэрыканскага Камітэту выражае свой глыбокі жаль з прычыны таго, што яго пакідае таленавіты й энэргічны палітычны дзеяч, які кіраваў усёй працай Камітэту"...

— „Выканаўчая Рада вітае адыходзячага Старшыню, адмірала Кэрка, з вызначэньнем яго на пасаду Старшыні Рады Псыхалягічнае Стратэгіі й выражае сваю упэўненасьць у тым, што дазнаньні адмірала ў часе ягонае працы ў Камітэце станоцца каштоўнай дапамогай вышэйшым дзяржаўным установам у змаганьні ўсяго сьвету супроць агрэсыўнага савецкага камунізму... Разьвітваючыся з адміралам Кэркам, Камітэт выражае яму шчырую й аднадумную падзяку за ягоную працу".

**Мартын Люціч**

# „Галгофа“

„І хто на страсе, той хай ня сыходзіць узяць што-коечы з дому свайго"...

(Ад Мтф., р. 24, в. 17).

I.

Міхей у гэты дзень меў шмат клопатаў: а пятай рана ён выехаў да млыну; даехаў шчасьліва — нідзе ніхто не затрымаў, і куды ён едзе, што вязе, адказваць нікому ня было патрэбы. Але, вяртаючыся назад, адразу-ж наткнуўся на нямецкі патруль.

— **Halt!**

Міхей зразумеў: трэба спыніцца. Да возу набліжаўся рыжавусы немец у вялікіх, і як Міхею здалося, цяжкіх фільцавых ботах. За плячыма ў яго быў кароценькі аўтамацік.

— **Was hast du?**

Ня ведаючы, што патрэбна і як адказаць, Міхей маўчаў, трымаючы ў рукох лейцы. Немец нахіліўся над возам і памацаў мяхі.

— **Mehl?**

— Бог яго ведае, што ён ад мяне хоча? — прашаптаў сам сабе Міхей і зноў нічога не адказаў немцу.

Жаўнеру не патрэбная была мука, але ён атрымаў загад: затрымліваць усіх і абшукваць, бо паблізу сталі частымі выпадкі падкладаньня мінаў пад чыгуначнае палатно. Немец аглядаўся, каб паклікаць каго, хто мог-бы дапамагчы вытлумачыцца. Але на вуліцы, як гэта часьцяком бывае ў нашых вёсках і мястэчках, якраз нікога ня было.

— **Zureuck!** — загадаў немец, адначасна паказваючы, што трэба акруціцца, павярнуць назад.

Тут Міхей зразумеў і пачаў тлумачыць, што ў яго толькі мука, ехаць яму далёка, а рух дазволены толькі да дзевятай увечары. Але, паколькі ён гаварыў посвойму, а немец мог разумець таксама толькі па-свойму, дык адзін аднаго не зразумелі. Вырваўшы з рук Міхея лейцы, немец нешта прагаварыў, досыць злосна і, падскочыўшы, усьсеўся на вазу зь мяшкамі. Завярнуў каня назад.

На заставе, якая была ў пачатку мястэчка, Міхея прымусілі зьняць мяхі з возу і аднесьці іх у двор. Пакуль ён гэта зрабіў — а таксама ад клопатаў за лёс мукі — Міхей адчуў, што спацеў. Зьдзеў кажух, які вязаў ягоныя рухі, прывязаў каня да плоту, і пайшоў глядзець, што будуць рабіць зь ягонай мукой.

Прыйшоў фэльдфебель: бялявы, із рабаценьнем па ўсім твары, і тыркнуў пальцам у мех.

— **Was hast du hier?**

Міхей увагнуў галаву ў плечы: адзіны адказ, які ён мог даць. Фэльдфебель праніклівa пагледзеў на яго і нешта загадаў жаўнерам, што стаялі на падворку із піпкамі й цыгарэткамі ў зубох. Два зь іх, каб доўга не валэндацца і ня брудзіцца мужыцкай мукой, пачалі нажамі пароць мяхі. Міхей хацеў паказаць ім, што разьвязаць вельмі лёгка й хутка, але жаўнер няпрыхільна адштурхнуў яго, а другі навет і замахнуўся. Далей ён прымушан быў стаяць і глядзець, як мука — ягонае дабро, із такім цяжарам нажытае, — убяліла зямлю й топчацца жаўнерскімі ботамі.

— Бог іх ведае, што яны ад мяне хочуць?! — думаў.

У мяхох, што было відаць адразу-ж, апрача мукі нічога ня было. Фэльдфебель флегматычна кінуў позірк на рассыпаную муку і пайшоў прэч. Застаўся адзін толькі жаўнер, што ўвесь час стаяў у баку і ўсё гэта моўчкі назіраў. Ён зараз падыйшоў да Міхея і пачаў стукаць яго па плячу і нешта тлумачыць. Селянін стаяў у постаці абвінавачанага і міргаў вачыма. — Зграбаць у мяхі муку ці пакінуць яе тутака? — думаў. І наагул, звольняць яго адгэтуль ці затрымаюць? Як-жа, яго-ж тамака конь!? Як-жа тады з канём, калі яго затрымаюць? Каня-ж трэба і пакарміць і напаіць... А без каня і жыцьця нямашака ніякага для селяніна... Із гэтага адранцьвеньня вывеў яго жаўнер: пераканаўшыся, што словамі тут да паразуменьня ня дойдзеш, ён прыгаршнямі пачаў зграбаць муку й кідаць яе ў мех. Рабіў гэта шпарка, энэргічна. Тады пачаў зграбаць і Міхей. І тут убачыў, што рукі ў жаўнера такія-ж шурпатыя і навет патрэсканыя, як і ў яго. А на пальцах гэтых рук — адзін адзіны пярсьцёнак, шлюбны. І нейкая спагада нарадзілася ў сэрцы Міхея, нягледзячы ні на што — зрадлівая спагада да гэтага чалавека. Ён падумаў: вось і ён, пэўне, селянін, і недзе ёсьць сям'я, дзеці, а сам блукае па сьвеце. Чаму гэта так? Міхей наблізіўся да жаўняра, паклаў яму на плячо руку — даволі — ткі цяжкую — і сказаў адно-адзінае слова, якое ён ведаў:

— Камарад...

І калі жаўнер усьміхнуўся, зашчаміў ягоны твар ў сваіх далонях, углядаючыся, як мага глыбей, у ягоныя вочы, такія-ж сьветла-шэрыя, як і ў Міхея.

— Ты мой сябра, — сказаў ўжо на сваёй мове, паказваючы свае вялізныя і шэрыя ад працы рукі.

Немец выскаліў зубы, ўжо досыць-такі папсутыя, стукнуў яшчэ раз Міхея па плячу і прамовіў:

— **Schnell... schnell...** — і паказаў на вакно хаты, у якой схаваўся фэльдфебель.

II.

Клопаты із затрымкай адабралі ў Міхея парадкам часу. За гэты час ягоны воз аблюбавалі жаўнеры. Калі Міхей вынес із двара першы мех, кажух ягоны ўжо ляжаў на доле, а драбіны былі перагружаныя жаўнерскімі ранцамі із прычэпленымі да іх кацялкамі, кубкамі, газавымі маскамі, запаснымі ботамі й скруткамі коўдараў. Міхей жахнуўся: няўжо куды везьці? Гэта-ж і так мала часу, калі-ж ён вернецца дахаты? „Бог яго ведае, што гэта за жыцьце?" — уздыхнуў. Жаўнеры, убачыўшы гаспадара, падганялі:

— **Schnell, schnell!...**

Міхей, не адказаўшы ані слова, пастаяў, а потым паклаў ў перадок свой першы куль з мукой і пайшоў па другі.

— **Schnell, Mensch!**

Урэшце, мяхі ўсе пагружаныя. Надзеў зноў кажух і сеў на воз. Узяў лейцы і накіраваў каня ў сваю дарогу, думаючы: Бог ведае, куды іх везьці? І ці далёка гэта ці блізка? І як ім вытлумачыць, што яму далёка да хаты,

